# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



ЦАРКОЎНА-НАРОДНЫ ДВУТЫДНЕВІК.

ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

## *Да паважаных Айцоў Настояцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

15-га верасьня 1928 году

Падпісная цана:
за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.;
да канца году — 3 зл.

№ 2

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.



## Беларускі рэлігійны гымн.

*Краіну родную, Беларусь бяздольную,*
*Маці гаротную, Божа, храні.*
*У сыноў яе бедных, працаю замучаных,*
*На дарогу сьветлую, Божа, напраў.*
*Волю, сьвядомасьць, брацтва і роўнасьць,*
*Шчасьліву долю ім, Божа, пашлі.*

---

## Царква і Дзяржава.

Пытаньне аб ўзаемаадносінах Царквы да Дзяржавы зьяўляецца адным з найважнейшыя. Ад правідловага вырашэньня гэтага пытаньня залежыць дабрабыт тае і другое. Вось, чаму прэса рожных кірункаў дае так шмат мейсца гэтаму пытаньню.

Цяпер, калі ідзе перагляд 10-х гадовага незалежнага існаваньня Польшчы, і назначаюцца пляны далейшага яе будаўніцтва зусім зразумела, што польскае грамадзянства хацела-бы, каб у гэтым будаўніцтве належную ролю адыгрывала і Праваслаўная Царква, якая лічыць блізка каля 5,000,000, ці каля 18% усяго насельніцтва Польшчы сваіх верных.

Зрабіць гэтую роль Царквы для Дзяржавы карыснай, альбо не карыснай, залежыць не ад Царквы, а ад Дзяржавы. Упрацягу уплыўшых 10-ці гадоў шмат было зроблена каб роля Царквы для Дзяржавы была як найменш карыснай.

Царква са сьмірэньнем зносіла падчас даволі цяжкія свае крыўды і нягледзячы на гэта адносіны яе да Дзяржавы ня былі варожымі, а пасыўна лайяль-

нымі. Царкаўна-настроенае грамадзянства разумела, што пры пачатку будаваньня Дзяржавы было шмат недарэчнасьцяў і ў іншых галінах жыцьця, дзеля гэтага церпяліва зносіла ўсякія прыкрасьці падчас нават зьдзекі паасобных адзінак у адносінах да Царквы.

Але калі Дзержава вышла на цьверды шлях і пачала сьмела будаваць сваю будучыню, адносіны яе да Царквы таксама не павінны быць хісьлівымі.

Царква мае права жыць па сваім кананічным законам, права абараняць сваю свабоду і незалежнасьць у сваім унутраным жыцьці. Яна зьяўляецца захавальніцай вышэйшых ідэалаў духа, заветаў і прэданьняў хрысціянства, суменьнем народу, узгадавацельніцаю чыстых, добрых нраваў.

Адносіны Царквы да Дзяржавы дакладна азначаны сьв. Апосталам Паўлам у яго пасланьні да Рымлян, гдзе ён прызнае воляй Божаю ўстанову ўлады дзяржаўнай. Празначэньне ўсякай ўлады дзяржаўнай—ёсьць абарона дабра і барацьба са злом.

Паміж Царквой і Дзяржавай пакуль кожная з іх застаецца вернай сваёй ідэі ня можа і не павінна быць ні варожасьці, ні барацьбы, а добрае супрацоўніцтва і узаемаадносіны.

Ненармальныя адносіны паміж Царквай і Дзяржавай пачынаюцца тады:

1) калі Дзяржава становіцца ворагам Царквы і хрысьціянства,

2) калі яна адмаўляецца ад падтрыманьня хрысьціянскіх падставаў жыцьця,

3) калі яна імкнецца да падпарадкаваньня сабе Царквы, ня лічучыся з яе кананамі, ламае іх і карыстаецца Царквою як сродкам дзеля зьдзейсьненьня сваіх дзяржаўных мэтаў,

4) калі яна зло выкарыстаўвае духоўны аўтарытэт Царквы дзеля сваіх дзяржаўных поглядаў і інтэрэсаў і такою палітыкай разбурвае павагу Царквы.

Аднак-жа дзяржаўныя ўлады павінны ведаць, што разбурваючы аўтарытэт Царквы, яны падрываюць уласную дзяржаўную сілу.

Вялікай памылкай у працягу 10 гадовага незалежнага існаваньня Польшчы былі неакрэсьляныя ўзаемаадносіны Дзяржавы да Праваслаўнае Царквы. Царква ў гэты пэрыад ня была самастойна ў сваім унутраным жыцьці. І ў гэтым вінаваты ня польскія асобныя прадстаўнікі ўлады, але і ўсе мы, праваслаўныя. Асобныя прадстаўнікі ўлады выказывалі ў адносінах да Царквы неакрэсьленае самаўладзтва, а мы—слабасьць і маладушша.

У выніку такога становішча—устрыманы халодныя адносіны да дзяржаўнасьці з боку найболей здаровых колаў грамадзянства.

Па нашаму разуменьню, Дзяржава зацікаўлена ў тым, каб адносіны веруючага праваслаўнага народу былі да яе ня толькі устрымана-халоднымі, ці пасыўна лайяльнымі, а каб яны былі **актыўна**—лайяльнымі.

Стварэньне такіх адносінаў у будучыні залежыць ад Ураду.

**Алі.**

# Архіпастырская адозва

## Яго Блажэнства, Блажэньнейшага Дзіанісія, Мітрапаліта Варшаускага, Валынскага і усёй Польшчы да усечасного Духавенства Мітраполіі, ад 1 серпеня 1928 году.

### *Улюбленыя маі айцы і браты!*

Пасучы стада Божае, якое ў Вас, наглядаючы за ім ня з прымусу, але ахвотна і Богаугодна не дзеля агіднай карысьці, але з стараннасьці; і ня імкніцеся да панаваньня над спадчынай Божай, але падаваючы прыклад стаду; і калі зьявіцца Пастыраначальнік, вы атрымаеце нявянучы вянок хвалы. (І петр. 5, 2—4).

Адным з найдаражэйшых скарбаў народу ўкраінскага, як і кожнага народу, зьяўляецца яго родная мова, і як кожны іншы народ, народ украінскі павінен любіць сваю мову, вучыць яе і ўдасканаліваць дбаючы аб разьвіцьці літэратуры на сваёй мове як арыгінальнай, так і перакладной і па магчамасьці яе збагачваць.

Калі ў пэўных выпадках і спатыкаем мы ў украінскай мове нястачу ці якіх-небудзь выразаў, няусталенасьць іх—дык памятайма, што гэта непавінна ні для каго быць прычынаю, каб з мовы гэтае кпіць ці яе зьневажаць.

Наадварот, належыць кожнаму, хто любіць свой народ і каму дорага ўсё роднае прыкладаць усе высілкі, каб мову сваю выпрацоўваць і веду сваю ў ёй папаўняць, сочачы за працаю навуковых таварыстваў і ўстановаў як і паасобных вучоных, якія пакліканы аб гэтым клапаціцца і працуюць для разьвіцця ўкраінскае мовы.

Асабліва прыкра, чуць ад некаторых людзей украінскага-жа паходжаньня, што ўкраінская мова—мова мужыцкая, хлопская. Такі пагляд ёсьць фальшывы і паўстае на той падставе, што людзі, якія так думаюць, забываюцца, што літэратурная мова кожнага народу прайшла праз той самы этап разьвіцьця, праз які праходзіць і мова ўкраінская.

Асабліва цяпер, калі мы бачым, як у апошнія часы ўкраінская мова заваёўвае сабе ўсе шырэйшыя правы, ахопліваючы ўсе галіны навукі і жыцьця, было-б дзіўным і ненармальным, калі-б яна была занядбана ў галіне жыцьця **царкоўна-рэлігійнага**.

І з гістарычнага погляду, і па самай сваёй сутнасьці рэлігійны бок жыцьця людзкога, як бок найінтымняйшы, павінен перад усім знайсьці, выраз у роднай мове кожнага народу.

На жаль, мы бачым, што наша духавенства не заўсёды выкарыстоўвае адзін з наймагутнейшых спосабаў уплыву жывым словам на сваіх прыхаджан для падняцьця іх маральнасьці і рэлігійнасьці, занядбоўвае свой абавязак навучаньня Слова Божага ў роднай мове.

З асаблівым націскам падкрэсьліваю, што аа. настаяцелі павінны на кожнай службе выходзіць з казаньнямі і навучаць сваіх прахаджан пры кожным адпаведным здарэньні.

Але прапаведніцтва наше, аб паглыбленьні якога я заўсёды буду рупіцца з неаслабнаю энэргіяй, тады тольк і дасягне свае мэты, калі прамоўцыдухаўнікі будуць прамаўляць да народа жывою, зразумелаю для яго моваю. Пры гэтым неабходна, каб духавенства абавязкава бралася да працы над удасканаленьнем як зьместу, так і самай мовы казаньняў.

Так сама і выкладаючы дзецям закон Божы, аа. законавучыцялі павінны весці лекцыі ў роднай мове вучняў, а царкаўна - славянскія тэксты пераклаl-

даць дзецям і дамагацца ад іх зразуменьня і веданьня гэтых тэкстаў і малітваў таксама ў іх роднай украінскай мове. Калі па законам нашае Дзяржавы і ў школах народных навучаньня вядуцца ў роднай мове вучняў, ці калі прынамсі ім выкладаюць іх родную мову, дык тым больш неабходна навучаць дзяцей рэлігіі ў роднай мове.

Усечасное духавенства Валынскай Япархіі павінна ведаць, што пастановы Сьвяшч. Сыноду ад 16/VII—1922 г. і 3 IX—1924 г., якімі ўстаноўлена справа ўжываньня украінскае мовы ў багаслужэньні і жыцьці царкаўным наагул,— Вышэйшая Царкоўная Улада ніколі ня пераглядала нанова і іх не скасоўвала. Непаразуменьнем зьяўляецца думка, што пастанова Валынскага Епархіяльнага зьезду ў 1927 г. мае больш, чым пастановы Сьв. Сыноду значаньня, і нібы-та Валынскія постановы скасоўваюць пастановы Сьв. Сыноду:

**„Без усякага запярэчаньня меншае ад большага багаслаўляецце“** (Яўр. 7,7), а не наадварот.

Такім чынам, гдзе згодна з варункамі мяйсцовага жыцьця і на жаданьні прыхаджан Служба Божая мае адпраўляцца па-украінску, аа. настаяцелі павінны пайсьці на спатканьне жаданьню сваіх прыхаджан; адначасна ня можна прамусова ўводзіць украінізацыю Службы Божае там, гдзе няма згоды пам!ж веруючых. Асабісты такт і вопыт пастыра павінен кожнаму падсказаць, як паступіць тады, калі сярод насельніцтва прыхода няма поўнай згоды, а ў выпадках сумлівых належыць справу прадстаўляць на вырашэньне Епархіяльнага Архіярэя. Аднак-жа кожны сьвяшчэньнік павінен памятаць, што ні **кананічных, ні дагматычных перашкодаў да адпраўленьня службаў Божых на украінскай мове як і на кожнай іншай, Праваслаўная Царква ня мае.**

Адначасна зазначаю, што Багаслужэбныя кнігі, якімі можна карыстацца, павінны мець благаслаўленьне Вышэйшае Царкоўнае Улады, і толькі тымі з іх, на якіх гэта абазначана, дазваляю карыстацца пры Багаслужэньні.

Тлумачачы гэта духавенству, Я адначасна вымагаю ад яго энэргічнай дзеяльнасьці і сьвядомасьці, лічу яго адказным перад Сьв. Царквою, родным народам украінскім і мною, як сваім Першасьвяціцелям, за яго дзеяльнасьць у напрамку заспакаеньня нацыянальных страсьцяў і ўнясеньня спакою ў душы верных. Усякую варажасьць і спрэчкі на мяйсцох належыць спыніць...

Вышэйшая Царкоўная улада ня мае сыноў і пасынкаў: усе верныя—яе родныя дзеці, аднолькава блізкія яе сэрцу. Хто пярэчыць гэтаму, той сее няпраўду і пашырае смуту на радасьць ворагаў праваслаўя.

Пастыры, якія заклікам маім не пераканаюцца, ня пранясуць карысьці ані прыхаджанам ані Дзяржаве, якая сваімі талеранцыйнымі законамі і разумнымі загадамі сваей Улады, не праціўіцца нацыянальнаму разьвіцьцю сваіх паасобных народаў.

Растлумачваючы ўсё гэта Усечасному Духавенству, адначасна прапаную ўсім сьвяшчэннаслужыцелям, якія працуюць на украінскай духоўнай ніве, адсылаць да Мітраполіі сваю працу і крытычныя заметкі дзеля перакладаў Сьв. Пісьма і Багаслужэбных кніг на украінскую мову і заахвочываць да гэтага і тых верных, якія займаюцца такою працаю. Пры Сьв. Сынодзе пад маім старшынством працуе спэцыяльная камісія, якая разглядае Вашы працы і выкарыстоўвае іх.

Молімся і будзем верыць, што Гаспод Бог благаславіць працу нашу на славу Яго Сьвятога Імяні на карысьць Сьвятой Царкве Хрыстовой і для спасеньня нашага яе верных дзяцей: бо Хрыстос сказаў: „Ідзеце і навучыце ўсе народы“ (Матв. 2819), а Дух Сьвяты, Якога Ен паслаў ад Айца вучням сваім ў дзень Пяцідзясятніцы, (ў відзе вогняных языкаў), **на единем каегождо іх... і начами глаголиці іными языкі..., і гудяхцея (всі людзіе), глаголюшчэ друг ко другу..., како мы слышым кійждо свой язык наш, в немжхе родіхомся, слышым глаголюшчах іх (апосталоў) нашымі язык велені Божія.** (Дзеян. 2, 3—11). Амінь.

(—) Дзіанісій
Мітрапаліт Варшаўскі і Валынскі
і ўсёй Польшчы.

У Варшаве. Году Божага 1928,
Месяца серпеня ў 1 дзень.

# Царства Божае і царства кесара.

(Працяг, гл. № 1).

Хрысьціянства не рэвалюцыйна ў вонкавым значэньні гэтага слова. Яно ўступала ў сьвет не як рэвалюцыйная сацыяльная сіла, заклікаючая да гвалтоўнае зьмены ладу жыцьця. Хрысьціянства ня можна назваць нават сацыяльна рэфармацыйнай сілай. Прыроду хрысьціянства не магчыма выразіць у сацыяльных катэгорыях нашага сьвету. Хрысьціянства вайшло ў сьвет як добрая вестка аб спасеньні і Царстве Божым. „Шукайце-ж перад усім Царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё залічыцца вам“. „Якая карысьць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь сьвет, а душу сваю загубіць“. „Ня прыдзе Царства Божае прыкметна і ня скажуць: вось яно тут; ці: вось яно там. Бо Царства Божае знаходзіцца ў душах вашых“. „Царства Маё ня ёсьць царствам гэтага сьвету“. Сацыяльная рэвалюцыя ва ўсім пярэчыць словам Хрыста. Дзеячы сацыяльнай рэвалюцыі імкнуцца перад усім да зямнога дабрабыту, а не да дасягненьня Царства Божага; яны хочуць здабыць увесь сьвет і гэтым шкодзяць сваёй душы; сацыяльная рэвалюцыя шукае такога ладу жыцьця, які прыходзіць прыкметна, аб якім можна сказаць, што ён тут, ці там, царства да якога імкнецца сацыяльная рэвалюцыя ёсьць царствам гэтага сьвету. Тое самае трэба сказаць і аб кірунку адваротным рэвалюцыі,аб імпэрыялізьме. Імпэрыялізм мае паганскую прыроду. Хрысьціянства было найвялікшым духовым пераваротам у гісторыі чалавецтва, самай вялікай унутранай рэвалюцыяй, перажытай чалавецтвам. З зьяўленьнем Хрыста зьмяніўся ўнутраны склад сусьвету. І разам з тым хрысьціянства ня верыць, што можна пераінначыць сьвет да лепшага вонкавым шляхам прымусу, адкідае ўсе вонкавыя рэвалюцыі, як абаснаваныя на ложнай духоўнай настроенасьці. У падстве ўсіх вонкавых рэвалюцый ляжыць духовая настроенасьць супярэчная хрысьціянскай. Імі кіруе зайздрасьць, злосьць, ненавісьць, помста, а ня любоў, інстыкт разбураньня, а не стварэньня, і яны нясуць сьмерць, а не ўваскрашэньне. Новае, больш даскаyналае і лепшае жыцьцё прыходзіць з сярэдзіны, а не звонку, ад духовага перараджэньня, а не ад пераінначаньня сацыяльных варункаў. Зьніштажэньне рабства ў сьвеце было справай хрысьціянства. Сьвет да-хрысьціянскі, нават у найвялікшых сваіх вучоных, ня мог падняцца да зьніштажэньня рабства. Але хрысьціянства ніколі не заклікала рабоў да бунтаў проціў сваіх паноў. Толькі няпрыкметна выказваюцца ў гісторыі плады хрысьціянскай ідэі брацтва людзей. Хрысьціянства не адкідае працэсаў адбываючыхся ў прыродным сьвеце, натуральнага разьвіцьця сусьвету; але на гэтыя працэсы ўскладае яно дасягненьне. Царства Божага, найвышэйшай мэты ў жыцьці. Да рэвалюцыі хрысьціянства адносіцца таксама, як і да кожнага вонкавага здарэньня жыцьця, г. ё. не рэвалюцыйна. Кожнае вонкавае здарэньне жыцьця, кожны вонкавы лад жыцьця ня ёсьць выпадковасьцямі, але нешта значаць для ўнутранага жыцьця чалавека, для яго духовага вопыту. Нічога ня можна разглядаць выключна, як вонкавы гвалт, нічым ня зьвязаны з маім унутраным лёсам. І на сталы лад дзяржавы, на манархіі і рэвалюцыі хрысьціянства аднолькава глядзіць з сярэдзіны, з глыбіні. Царства Божае прыходзіць ня прыкметна, яно прыходзіць не праз манархіі і не праз рэвалюцыі. Але і вонкавы сталы лад жыцьця і вонкавыя перавароты жыцьця заўсёды азначаюць здарэньні ўнутранага духовага сьвету, яны не знаходзяцца ўвонках маяго ўласнага лёсу, як стварэньне ніжэйшага матар'яльнага сьвету. Хрысьціянства не дуалістычнага, ці дакладней: хрысьціянства прызнае дуалізм рэлігійна-этычны, але абсалютна адкідае дуалізм анталягічны.

Хрысьціянства не адкідае дзяржавы і ўлады. Праз вусны апостола Паўла Хрысьціянская Царква прызнала, што ўлада паходзіць ад Бога і што начальствуючы носіць меч не дарэмна. Улада

не дапускае да хаотычнага распаду сьвету, аканчальнае перамогі ў ім анархіі. Словы апостола Паўла сказаны не аб хрысьціянскай уладзе. Хрысьціянскага гаспадарства ў тыя часы ня было. Гаспадарства было паганскім і гнала хрысьціян. Словы гэтыя сказаны аб кожнай уладзе наагул, яны адносяцца аднолькава і да паганскае ўлады і да сучаснае дэмакратычнае рэспублікі, і да савецкае камуністычнае ўлады. Чалавецтва павінна знаходзіцца ў стане не дапускаючым аканчальнага хаотычнага і анархістычнага распаду. Так і законы прыроды ўсьцяж падтрымліваюць элемэнтарны парадак сьвету. Такава праўда ўлады, праўда гаспадарства. Гэта ёсьць праўда закону, старазаветная, а ня новазаветная праўда. Дзяржава мае дахрысьціянскую, старазаветную, паганскую прыроду. Улада дзяржаўная прайшла, як у спадчыну, у севет хрысьціянскі з сьвету паганскага. Імпэратарская ўлада, якая ў Візантыі атрымала хрысьціянскі і сьвяшчэнны характар, ёсьць старая паганская ўлада Рыму і вялікіх усходніх імпэрыяў, — Ягіпту, Пэрсіі, Асірыі і Вавільёну. Імпэратарская і царская ўлада ня мае ніякага самастойнага хрысьціярскага паходжаньня, яна атрымала ў спадчыну ад старажытнага сьвету, і толькі прынята і асьвяшчана хрысьціянствам, таму што хрысьціянства не анархічна і прызнае місію ўлады ў грахоўным чалавецтве. Такія адносіны да ўлады і гаспадарства не азначаюць яшчэ ў хрысьціянстве самабытнага, чыста хрысьціянскага ідэалу грамадзянства, ідэалу хрысьціянскага гаспадарства, якое пры зараджэньні хрысьціянства не існавала. А. С. Хамякоў кажа: „Імпэратарства было, відаць, няздольна ахапіць усё прылажэньне старажытнай рымскай ідэі праўнага гаспадарства да новае рымскае эпохі: яно ня мела ў сабе пачатку самаасьвяшчэньня, якога вымагала думка хрысьцянская, бо Захад не зразумеў яшчэ сумеснасьці паняцьцяў хрысьціянства і паняцьцяў гаспадарства, г. ё. уплашчэньня хрысьціянства ў гаспадарственную форму". Але тое, што Хамякоў адносіць да Захаду адносіцца і да Усходу. Пасьля таго як была праліта першая капля крыві хрысьціянскіх мучанікаў, былі заўсёды абмежаваны самадзяржаўе гаспадарства і абсалютызм і быў адкінены імпэрыялізм.

Пачаткавае хрысьціянства чакала хуткага канца сьвету і другога прыходу Хрыста. Перад ім не адчыняліся пэрспэктывы доўгага гістарычнага працэсу, у якім Царква Хрыстова будзе дзеючай сілай. Першыя хрысьціяне не бунтавалі проціў паганскай улады, не заклікалі да сацыяльнага перавароту, але яны поўнасьцю былі скіраваны да канца, да другога прыходу Хрыста. яны не патрэбавалі ўласнага хрысьціянскага гаспадарства. Першыя хрысьціяне згаджаліся аддаваць кесарава кесару, але гаспадарства было для іх „сьветам", царствам гэтага сьвету. Царства кесара, царства гэтага сьвету ня можа быць хрысьцянскім, сьвяшчэнным царствам. Пачатковая хрысьціянства жыла выключна ідэяй Царства Божага, якое па сутнасьці, прынцыпова адрожніваецца ад царства кесара. Першыя хрысьціяне ня імкнуліся, ды й па сваёй ідэалёгіі не маглі імкнуцца, да стварэньня хрысьціянскага гаспадарства. Гаспадарства ёсьць „сьвет", паганства. Хрысьціянская Царква ёсьць праціўлежнасьць „сьвету", паганству, паганскаму гаспадарству. Першыя хрысьціяне жылі выключна духовымі ахвярамі, якімі акрэсьліваўся ўвесь лад іх жыцьця, уся арганізацыя хрысьціянскай Царквы, хрысьціянскага грамадзянства. Так ня можна было жыць даўгім гістарычным жыцьцём. І калі хрысьціянства зразумела, што перад ім яшчэ ляжыць даўгі гістарычны шлях, усё пачало зьмяняцца. Царства Божае адсунулася ў далёкі канец гісторыі. Хрысьціянства змушана было жыць і дзеяць у гісторыі. Хрысьціянства ня можа быць падобным на жыдоўскую апокаліптычную сэкту. Яно прызнала сябе сусьветна-гістарычнай сілай. Няпраўда монтанызму заключалася ў тым, што монтанызм маніўся ўтрымацца на стадыі пачатковага хрысьціянства, маніўся жыць безпасрэдна харызмамі і калі іх забракла, працівіўся сусьветна-гістарычнай ролі хрысьціянства. На гэтым-жа збудаваны і ўсе рэлігійна-сэктанцкія вучэньні, якія зазвычай мелі рэакцыйную прыроду. Першыя стагодзьдзі хрысьціянства жыло ў варожых паганскіх стыхіях сьвету. Яно дзеяла ў іх

не як вонкава разбурваючая сіла, але як сіла ўнутрана праабражаючая. Хрысьціянская Царква ўладае здольнасьцю жыць абкружанай якой-бы ні было варожай стыхіяй. У катакомбах яно ўладала найвялікшай унутранай сілай і з катакомбаў Царква падпарадкавала ўвесь сьвет. Але хрысьціянству суджана было ўступіць у новы гістарычны пэрыад ў другі пэрыад адносінаў між царквой і гаспадарствам, між Царствам Божым і царствам кесара. Гэты пэрыад пачаўся з Канстанціна Вялікага.

Здарылася тое, чаго не чакалі першыя хрысьціяне. Паганскае гаспадарства схілілась перад духовай сілай хрысьціянства. Імпэратарская ўлада робіцца хрысьціянскай. Гэта ёсьць вялізарны пераварот, ня толькі у „сьвеце“, у гаспадарстве, але і ў хрысьціянстве, у Царкве. Хрысьціянства перастае быць эстахолёгічным, хрысьціяне не чакаюць ужо хуткага канца сьвету і прыходу Хрыста. Хрысьціянства робіцца гістарычным, яно перабудоўвае сябе, падгатаўляе да актыўнай ролі у сусьветнай гісторыі. Хрысьціянства ўваходзе ў „сьвет“, у гісторыю, прыстасоўваючы сябе да дзеяльнасьці ў „сьвеце“, да заваяваньняў у гісторыі. Гэтая перамога куплена была дарагой цаной. Пачаткавае хрысьціянства з яго харысматычнасьцю і эсхаталягічнасьцю застаецца ў гісторыі хрысьціянства з заду, як згублены рай. Хрысьціянству прыйшлося забрудзіць сябе ў пылу і брудзе зямное гісторыі. Яно зыйшло ў нізіну жыцьця „сьвету“, выпрацавала сябе новыя ворганы для такога жыцьця. Яно шмат згубіла, але шмат і набыла. Мы ня можам, падобна рацыяналістычным і пратэстанцкім гісторыкам глядзець на гэты новы пэрыад хрысьціянства, як на вялікае няшчасьце ў гісторыі хрысьціянства. Гэты пагляд зусім не праваслаўны. Пэрыад першага хрысьціянства павінен быў скончыцца. Царства Божае не магло наступіць у выніку яго кароткай гісторыі. Узьнік „хрысьціянскага гаспадарства“ стварэньне хрысьцянскіх тэакратыяў, ня было няшчаснай выпадковасьцю ў гісторыі хрысьціянства і ўсяго сьвету, яно было ўнутрана неабходным момантам, які даўгі час панаваў у царкоўным сузнаньні, што царства кесара стала заўпраўдым сьвяшчэнным, хрысьціянскім царствам, што тэакратычнае гаспадарства павінна панаваць заўсёды. Другі пэрыад у адносінах між Царквой і дзяржавай, між Царствам Божым і царсгвам кесара ня ёсьць аканчальны і вечны пэрыад. У гісторыі хрысьціянства павінен наступіць і наступіў ужо трэці пэрыад. І наступленьне трэцяга пэрыаду таксама ня ёсьць няшчасная выпадковасьць, як і наступленьне другога пэрыаду. Царкоўнае сузнаньне ня ведае догмату аб сьвяшчэнным царстве кесара і ня ведае таінства аб сьвяшчэннай царскай уладзе. Царства Божае і царства кесара зьмяшаліся і перапляліся ў гісторыі.

З часоў Канстанціна Вялікага Царква асьвяшчае ўладу, ня так, як апраўдвала яна ўладу паганскую, яна асьвяшчае яе як уладу хрысьціянскую. Сьвет робіцца хрысьціянскім сьветам, народы робяцца хрысьціянскімі народамі. Хрысьціянскія народы жылі адной верай і адной праўдай. Гэтай еднасьці ў веры і праўдзе адпавядала еднасьць у ладзе гаспадарства і грамадзянства у характары культуры. Манархіі сьвяшчэнны да таго часу, пакуль народы вераць у іх сьвяшчэннасьць. Склад гаспадарства і грамадзянства цалком акрэсьліваецца рэлігіянымі вераваньнямі народу. Формы гаспадарственнай улады падаюць, калі падаюць рэлігійныя вераваньні народу. У гэтым сэнсе народны сувэрнітэт застаецца вечнай праўдай, ён існаваў і ў старажытным Ягіпце. Ніякая гаспадарственая ўлада не магла існаваць адным прымусам. Яна заўсёды падтрымлівалася верай народу ў сьвяшчэннасьць гэтае ўладу. Калі ў сьвяшчэннае значэньне манархіі перастаюць верыць, яна робіцца тыраніяй і пачыняе занепадаць. Еднасьць ня можа быць прымусовай. Вонкавы лад жыцьця, гістарычная плоць гаспадарства толькі сымбалізуюць унутранае духовае жыцьцё народаў. І калі ў унутраным духовым жыцьці народаў адбываюцца зьмены, тады старая сымболіка падае і зьяўляецца патрэба новае сымболікі. Царства кесара заўсёды ёсьць сфэрай умоўнай і адноснай сымболікі, а не бязумоўных і нязьменных рэальнасьцяў. Той ракавы працэс новай гісторыі, які завецца сэкулярыза-

цыяй. ёсьць толькі праўдзівым адбіцьцём таго, што здарылася ў унутраным жыцьці хрысьціянскага чалавецтва. Калі гаспадарства, права, навука, гаспадарка, мастацтва, мараль, увесь быт не хрысьціянскі ў найглыбейшым, найрэальнейшым значэньні гэтага слова, дык іх і не належыць называць хрысьціянскімі. Ня трэба называць царства кесара сьвяшчэнным, хрысьціянскім царствам, тэакратыяй, калі ў запраўднасьці яно сьвецкае, паганскае і антыхрысьціянскае па сваёй прыродзе. Хрысьціяне ня могуць імкнуцца да сэкулярызацыі, хрысьціяне павінны імкнуцца да таго, каб усё стала хрысьціянскім, але яны могуць прызнаваць праўдзівасьць сэкулярызацыі і ніколі ня могуць жадаць прымусовага прызнаньня хрысьціянскім таго, што не хрысьціянскае. Трагэдыя другога канстанцінаўскага пэрыяду хрысьціянства ў тым, што ён канчаецца сэкулярызацыяй, як дамаганьнем праўдзівасьці і свабоды, як выразам няўдачы ўсіх тэакрытыяў.

**Бердзяеў.**

(Працяг будзе).

# Люблю наш край.

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю вясну, што ў кветкі, ў зелень
Аздобіць цэлую зямлю;
На гнёздах бусла клекатаньне
І сьпеў жаўраначка люблю.

Люблю гарачу сьпеку лета
І буру летнюю з дажджам,
Як гром грыміць, і ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.

І восень сумную люблю я,
І першы дзвон сярпоў і кос.
Як выдуць жнеі жыта жаці
А касары на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў узор,
І белы сьнег, што ўсё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.

І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай,
Пераліваюцца—плывуць.

Усё ў краю тым мне сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з шчасьцем першым я пазналась,
І з гора першаю сьлязай.

**К. Буйла.**

# Рэлигійнае ўзгадаваньне беларускай вучнёўскай моладзі.

Прачытаўшы ў першым нумары „Беларускай Зарніцы“ вестку аб тым, што зусім была закіненая Пятніцкая царква ў Вільні патрабуе рамонту, да якога цяпер, быццам, хочуць прыступіць, я ў сувязі з гэтай весткай, хачу падзяліцца з грамадзянствам тымі клопатамі і стараньнямі, якія былі зроблены ў 1926 г. Віленскай Беларускаю Гімназіяй і бацькаўскім пры ёй камітэтам перад Віленскай Епархіяльнай Духоўнай Уладаю, каб скарыстаць гэтую гістарычную і дарагую для праваслаўных беларусоў сьвятыню для рэлігійнага ўзгадаваньня вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі і іншых школаў.

У пачатку 1926 г. пры абгаворваньні агульнае справы ўзгадаваньня беларускае моладзі — Пэдагагічнаю Радаю Віленскае Беларускае Гімназіі і Бацькаўскім камітэтам гэтае гімназіі была зьвернена асаблівая ўвага на рэлігійнае ўзгадаваньне моладзі. Дзеля таго, што абсалютную большасьць, да 90%, вучняў становяць праваслаўныя, пастаноўлена была прасіць Віленскую Епархіяльную Духоўную Уладу аб адданьні Гімназіі Пятніцкае царквы на правох гімназіяльнай і аб адпісаньні яе ад Мікалаеўскае царквы, да якой яна была прыпісана.

Трэба зазначыць, што ў Пятніцкай царкве ў нядзелі і сьвяточныя дні служба Божая пасьля вайны ніколі не адбывалася, як не адбываецца і цяпер.

У той час у Вільні хадзілі чуткі, што Пятніцкую царкву, быццам хочуць захапіць вуніяты, як непатрэбную для праваслаўных, дык можа дзеля гэтага і было дазволена адпраўляць у ёй службу Божу для беларускай вучнёўскай моладзі.

І вось у гэтай найстарэйшай у Вільні царкве пачало адпраўляцца багаслужэньне. Дагэтуль царква была пазбаўлена ня толькі самых неабходных царкоўных рэчаў але і вонкавай прызваітасьці: усюдымі пыл, сьмецця, бітыя шыбы ў вокнах, а галоўнае—вільгаць. У кароткі час царква прыняла зусім іншы выгляд: была вычышчана, прыбрана, зьявіліся неабходныя для адпраўленьня службы рэчы,—пачала апальвацца і прасушвацца. Вучаніцы і вучні пад кіраўніцтвам настаўніц гімназіі—з звычайнай у маладых гадох шчырасьцю прыбіралі царкву. Добра арганізаваны хор з вучняў гімназіі, дух. сэмінарыстаў і беларускіх студэнтаў, мастацкі выконываючы царкоўныя песьні, паглыбляў рэлігійны настрой і спрыяў павялічэньню ліку молячыхся.

У асобаў, дбаючых аб рэлігійным узгадаваньні беларускай вучнёўскай моладзі і адказных за гэтае выхаваньне зьявілася думка аб поўным рамонце Пятніцкае царквы, на што трэба было некалькі тысяч злотых. Ясна, што пры затраце такой сумы трэба было мець пэўнасьць, што царква ня будзе па чыяму-небудзь капрысу, ці дзеля чыёйнебудзь карысьці адабрана ад гімназіі. Але гэтае пэўнасьці ня толькі ня было, а наадварот: усё гаварыла за тое, што якраз так будзе. Царква ня была адпісана ад Мікалаеўскае, ня была аддана гімназіі на правох гімназіяльнае і ключы ад яе знаходзіліся ў настаяцеля Мікалаеўскае царквы, у якога і трэба было іх прасіць кожны раз, як трэба было адправіць набажэнства; бывалі таксама выпадкі, што ключоў ад царквы ў патрэбны момант зусім „не знаходзілася“. Гэтыя выпадкі змусілі Дырэкцыю Гімназіі паўтарыць просьбу аб перадачы Пятніцкае царквы гімназіі. Аднак Епархіяльная Улада дыплёматычна ўхілілася ад вырашэньня гэтага пытаньня, перадаўшы яго на разгляд епархіяльнага сабраньня духавенства, якое зрабіла ня менш дыплёматычную рэзалюцыю, прыблізна такога зьместу: „прымаючы пад увагу жаданьне праваслаўных беларусоў маліцца, зьезд духавенства вітае гэта і нічога ня мае процiў таго, каб і далей яны маліліся ў Пятніцкай царкве“. А аб аддачы царквы гімназіі ні

слова. Справядлівасьць вымагае зазначыць, што такую дыплёматычна-хітрую ў сьвятой справе рэзалюцыю запрапанаваў былы законавучыцель беларускае гімназіі а. Дзічкаўскі.

У тым часе зьявіліся надзвычайна сумныя чуткі, што некаторым сябром зьезду дан быў патаемны загад асобамі займаючымі выдатнае становішча ў духоўным сьвеце каб яны на зьездзе паўставалі проціў передачы Пятніцкае царквы гімназіі.

Пасьля адмовы ў передачы царквы гімназіі трэба было адмовіцца ня толькі ад яе рамонту, але і ад адпраўленьня службы Божай у гэтай царкве, якая і цяпер у нядзелі і сьвяточныя дні стаіць зачынянай.

Моладзь з сумам пакінула царкву, на якую яна глядзела, як на родную сьвятыню, як на крыніцу сьвятога семені, якае яна мела нясьці на свае далёкія родныя палеткі, якія цяпер так інтэнсыўна імкнуцца засяваць рожныя сэктанты. Глядзела на яе, калі ў ёй малілась, і цешылась, а сумесна з ёй цешыліся і яе бацькі і адказныя за яе рэлігійнае ўзгадаваньне настаўнікі.

Пазбаўленая магчымасьці маліцца ў роднай сям'і, слухаць навучаньня ў царкве ў роднай мове, моладзь пачала хадзіць хто куды, у большай частцы бадзяцца па вуліцах, а тыя хто жыве ў інтэрнаце пры гімназіі дык падчас службы Божай зазвычай гуляць у рожныя гульні.

Мімаволі паўстае пытаньне, чаму Пятніцкая царква не аддана гімназіі, а стаіць зачынянай? Да якое мэты імкнуцца тыя хто кіруе гэтаю царквой і для каго яны яе берагуць?

Гэтае пытаньне такое паважнае, асабліва ў сучасную пару і мае такое вялікае значаньне ў справе рэлігійнага ўзгадаваньня беларускай праваслаўнай моладзі, што пазбаўленьне яе маліцца ў гэтай царкве, а кіраўнікоў моладзі адрамантаваць царкву, павінны легчы нязмываемай ганьбай на сумленьні таго, хто дзеля асабістай карысьці, ці якіх-небудзь іншых нячыстых мэтаў, перашкаджае зьдзейсьненьню імкненьняў у зазначаным напрамку выхаваўцаў беларускае моладзі.

**Адзін з бацькоў.**

---

# ПРАЎДУ НА СЬВЕТ!

У хроніцы № 1 „Беларускае Зарніцы" мы адзначылі ў кароткай заметцы вельмі красамоўнае паведамленьне Міністэрства Вызнаньняў, прысланае Віленскаму Япархіяльнаму Праўленьню праз сьв. Сынод, аб тым, што ў сучасную пару ня можа быць і мовы, дзякуючы матар'яльнаму становішчу, аб падвыжшэньні платы праваслаўным законавучыцялям.

Нам ня ведама, чым іменна выклікана было гэтае паведамленьне, трэба думаць, што падавалась просьба аб падвыжшэньні пэнсіі а.а. законавучыцялёў. Трудна дапусьціць, аднак, каб у цэнтры япархіі, у Віленскай Кансісторыі, якая цяпер мае асобны законавучыцельскі стол, ня ведалі, што галоўнай балячкаю праваслаўных законавучыцялёў у вёсцы зьяўляецца ня столькі малое ўзнаграджэньне, колькі спосабы платы. На гэтым мы дазволім сабе трошкі затрымацца, бо з шматлічных гутарак з прыяжджаючымі з рожных мяйсцоў япархіі сьвяшчэньнікамі, нам прадставіўся такі ўзбурваючы абраз, прайсьці моўчкі міма якога немагчыма.

Перад усім ва ўсіх паўшэхных і амаль ва ўсіх сярэдніх школах—усе праваслаўныя законавучыцялі зьяўляюцца ня штатнымі пэдагогамі, а кантрактовымі служачымі па найму. Ня кажучы аб тым, што кантрактовы вучыцель атрымлівае ўдвая меньшае ўзнаграджэньне (1 зл. 50 гр. за асобную лекцыю замест 3 зл.—ён таксама пазбаўлены ўсіх іншых прывілеяў пэдагога штатнага (прыбаўкі за выслугу, правоў на эмэрытуру і інш.). Чаму гэтае правіла дастасоўваецца да вучыцялёў праваслаўнае рэ-

лігіі, нароўні з вучыцялямі скокаў і гімнастыкі—няведама... Г. ё. яно стане вельмі ясным, калі паглядзець на справу з пункту гледжаньня шавіністычна-народных паняцьцяў.

І вось, абавязкавы па канстытуцыі Польскае Рэспублікі, прадмет праваслаўнай рэлігіі выкладаецца вучыцялямі кантрактовымі, г. ё. удвая танейшымі ад вучыцялёў іншых прадметаў: 1 зл. 50 гр. за лекцыю.

Але тут паўстае іншае пытаньне: раз плоціцца за лекцыю, лік даных лекцыяў павінен быць некім палічаны. Ясна лічыць кіраўнік школы; у канцы месяцу ён прадстаўляе месячную ведамасьць школьнаму інспэктару; той робіць паверку па школах сваяго вокругу і прадстаўляе сваю ведамасьць у куратарыум. Апошні высылае асыгноўкі, па якім і атрымліваюцца грошы.

Гэта агульны парадак.

А вынікі гэтае цяганіны вельмі зьдзіўляючыя: зазвычай сьвяшчэньнік-законавучыцель даў, напрыклад 50 лекцыяў; яму „залічалі“ 30, а выплачана за 18! Аднаму заплачана ўсё, другому—палова, трэцяму—нічога. Адзін, хаця-ж за палову, атрымаў па 1 зл. 50 гр.. а па 65 гр., ці па 80, ці па 83!.. Але і гэта яшчэ ня ўсё: гэтыя грошы прыходзяць зазвычай з спозьненьнем на цэлыя месяцы... На гэтых днях прыйшлось пішучаму гэтыя радкі гутарыць з двама сьвяшчэньнікамі-- з Браслаўскага і Вілейскага благачыньняў: ім да сягоньня не заплочана за лекцыі даныя... у сакавіку! Нам ведамы пратаколы благачыньніцкага сходу ў Друі, з якіх відаць што лік лекцыяў праваслаўнай рэлігіі адвольна скарочваецца школьнымі інспэктарамі, выплата грошаў затрымліваецца, а ў некаторых мяйсцох ня гледзячы на пунктуальныя зьяўленьні сьвяшчэньніка на лекцыі, ён абсалютна пазбаўлены ўсякага ўзнагараджэньня за сваю працу. Аказваецца, што ад кіраўніка школы залежыць „залічыць“ ці не залічыць дзенную лекцыю, калі незалічыць—сьвяшчэньнік, даўшы лекцыю, г. ё. выканаўшы пэўную працу, узнагараджэньня не атрымлівае.

Усё расказанае вельмі лёгка ілюстраваць цыфрамі, назовамі школаў і прозьвішчамі вучыцялёў. Не рабілі гэтага дзеля таго, каб не пястрыць старонак часопісі пералічэньнем назоваў. Скажам толькі, што становішча праваслаўных законавучыцялёў агулам ненармальнае, што яны разумеючы свой пастырскі абавязак, моўчкі выконваюць сваю цяжкую працу, працуючы амаль бясплатна, толькі каб не пакідаць бяз сьвету праўды Божай шматлічнага падрастаючага пакаленьня праваслаўных грамадзян, што ў сутнасьці зусім зразумелы прычыны дыктуючыя каму трэба падобныя адносіны да праваслаўных духаўнікоў.

Але калі гэтыя апошнія маўчаць выконываючы свой пастырскі абавязак, ці-ж павінны маўчаць мы, праваслаўныя беларусы? Ці-ж не павінны мы гаварыць крычаць, пісаць аб гэтым? Ці-ж можна допусьціць, каб адукаваныя, лібэральныя, умныя людзі, са сфэры культурнага польскага грамадзянства, правячых колаў і каталіцкага духавенства ведалі аб тым, што рабіцца ў глухіх кутках Беларусі, у імя неправідлова зразумелай „нарадовай“ ідэі, у імя барацьбы са „схізмай“, і давалі на гэта сваю згоду?

Але няўжо ня ведае аб гэтым нашая Епархіяльная Улада? А калі ведае чаму маўчыць?

Не павінна маўчаць!

Трэба ўмець бараніць свае мэты прызначаныя нам Канстытуцыяй. Праўда не баіцца сьвету—мы павінны ўмець гаварыць праўду і нясьці яе на сьвет.

**М. Чарнеўскі.**

# Прысяга на беларускай мове.

Бываюць выпадкі, калі сьведкі ў справах судовых, ці та ў духоўных, зварачваюцца да сьвяшчэньніка з просьбай злажыць ім прысягу ў роднай беларускай мове. Звычайна верныя складалі прысягу дагэтуль у расейскай або ў польскай мове; незаўсёды для прысягаючых зразумелай.

Каб захаваць усю важнасьць прысягі, зрабіўшы кожнае слова яе зразумелым беларускаму грамадзянству, ніжэй друкуецца для ведама духавенства і міран тэкст прысягі ў беларускай мове. Ужываньне беларускае мовы пры злажэньні прысягі дазволяна законам. Тэкст прысягі ў беларускай мовы наступны:

„Прыракаю і клянуся Усемагутным Гòспадам Бòгам перад сьвятым Ягò Евàнгельлем і Жыватворным Крыжам, што ня кіруючыся: ані прыязьнею, ані сваяцтвам ані таксама дзеля якой-небудзь іншай прычыны ў справе гэтай пакажу чыстую праўду і нічога не ўтаю з таго, што мне ведама, памятуючы што з усяго гэтага абавязаны буду здаць рахунак перад Госпадам Богам на апошнім Судзе Яго.

У доказ шчырасьці: гэтае мае прысягі цалую Словы і Крыж Спаса Майго. Амэн“.

---

# Пятніцкая Царква.

Сябры Мітрапалітальнае Рады ад Беларускага грамадзянства па даручэньню царкоўна-грамадзкіх колаў гэтага -рамадзянства, дбаючыя як аб рэлігійным выхаваньні беларускай моладзі, так і наагул аб паглыбленьні рэлігіі ў жыцьці беларускага грамадзянства, зьвярнуліся да Яго Блажэнства Уладыкі-Мітрапаліта з просьбай—аддаць Гістарычную Сьвятыню Беларусі—Пятніцкую Царкву - Віленскай Беларускай Гімназіі і зрабіць яе адначасна прыходзкай царквою Пятніцкага Беларускàга прыходу, які мае заснавацца ў Вільні.

Прымаючы пад увагу, што Мікалаеўскі прыход у Вільні, да якога прыпісана Пятніцкая Царква, двуклірны, што Служба Божая ў нядзелі і сьвяточныя дні ў Пятніцкай Царкве не адпраўлялася, што Мікалаеўскі прыход не мнагалюдны, і што для яго абслугоўваньня даволі аднаклірнага прычту,—сябры Мітрапалітальнае Рады, прадстаўнікі Беларускага Грамадзянства, дбаючыя аб утрыманьні ў належным стане як Пятніцкае Царквы, так і матэр'яльным забясьпечаньні яе прычту, прасілі аб выдзяленьні з нярухомай маемасьці Мікалаеўскага прыходу часткі, падаючай на утрыманьне аднаго прычту, а другую палову маемасьці, прыпадаючую на другі аднаклірны прычт, пазаставіць пры Мікалаеўскай Царкве.

Яго Блажэнства Уладыка—Мітрапаліт прыхільна аднёсься да гэтае просьбы прадстаўнікоў беларускага царкоўнага грамадзянства. На падставе атрыманага загаду Віленская Духоўная Кансысторыя паведаміла гімназію, што Пятніцкая Царква можа быць аддана безадкладна, а аб выдзяленьні адпаведнай часткі маемасьці Кансысторыя будзе мецъ нараду.

Такім чынам тыя мэты, да якіх на славу Усявышняга імкнуліся праваслаўныя беларусы яшчэ ў 1926 г. і якія не маглі зьдзейсьніцца дзеля патаемна чынімых у гэтай справе з боку мяйсцовае духоўнае ўлады, як падае аб гэтым у гэтым-жа нумары весткі адзін з бацькоў, перашкодаў, цяпер здзейсьніліся.

Праваслаўнае беларускае грамад-

зянства цяпер ведае, хто запраўдныя яго прыяцелі, хто для дабра Царквы разумее яго патрэбы. І калі яно з вялікім жалям і сумам моўчкі пераносіла незразуменьне чужынцамі патрэбаў яго духа, уціск, а падчас глумленьне і здзекі над яго мовай, звычаямі і асаблівасьцямі нацыянальнае культуры, дык гэта цярпелася толькі часова ў надзеі, што гэтыя чужынцы зразумеюць урэшце патрэбы беларускага народу.

Гэтую напружанасьць так небясьпечную і шкодную для царкоўнага жыцьця Вышэйшая Духоўная Улада ў значнай меры аслабіла.

**Сако.**

# Гаспадарчыя парады.

## Гародніцтва.

### Грунт і яго паляпшэньня.

Грунт на гародзе павінен быць перадусім цёплы, бо на сьцюдзённым грунце варыва ня ўдаецца. Апрача гэтага, грунт павінен быць сытным, багатым, гэта значыць, павінен мець у сабе патрэбны для росту варыва клёк. Урэшце, грунт павінен добра трымаць у сабе вільгаць. Карацей кажучы, грунт на гародзе павінен быць цёплым, сытным і нясухім.

Найбольш адпавядае гэтым варункам чарназём з значнай часткай гліны. Але гэткі грунт у нас спатыкаецца надта рэдка і дзеля гэтага, каб мець з гароду большую карысьць, найчасьцей прыходзіцца паляпшаць той грунт, які ў нас ёсьць.

Разгледзім тыя грунты, якія ў нас спатыкаюцца, чым яны дрэнны і як іх можна палепшыць.

**Пясчаны, барысты** грунт для гароду нядобры дзеля таго, што хутка высыхае хутка награваецца і хутка астывае і наагул гэткі грунт бедны.

Раней чым закладаць на пяскох герод трэба іх палепшыць, навазіўшы на пясок гною, а таксама тарпы і гліны. Гліна і тарпа навозяцца з восені і раскідваюцца на гародзе. За зіму гліна і тарпа перамерзнуць, зробяцца рыхлымі і тады вясной загорваючыся ляпей перамешваюцца з пяском. Гліны і тарпы на першы раз класьці трэба ня меней як па аднаму пуду на сажэнь гароду. Навозіць гліну і тарпу трэба ў працягу некалькіх гадоў, пакуль грунт ня зробіцца клейкім і цёмным.

Тарпа дадае пяску чарны коляр, ад чаго грунт робіцца цяплейшым ды й апрача таго тарпа добра трымае вільгаць, дзела чаго грунт ня так хутка высыхае. Ад гліны пясок робіцца больш вязкім, клейкім і ня так разсыпаецца. Тарпа і гліна яшчэ багацяць пясок тымі спажыўнымі часткамі, якія патрэбны расьлінам і якіх пяшчаны грунт мае заўсёды зусім мала.

На пяскох, калі няма надзеі палепшыць іх тарпой і глінай, гароду ляпей не закладаць, бо адным гноем значнай карысьці дабіцца нельга дзеля таго, што гной у пяску перагарае надта хутка, Дзеля гэтага гною на пяскі трэба класьці хоць менш, але як мага часьцей.

**Гліны** лічацца грунтамі і сьцюдзёнымі, і цяжкімі да выработку. Хоць гліна мае ў сабе надта шмат тых спажыўных частак, якіх патрабуюць для свайго росту расьліны, але ўсё-ж варыва на глінах расьце цяжка дзеля таго, што грунт гэты надта тугі і карэньням трудна прабівацца ў ім. Вясной на глінах немагчыма рана пачынаць работу, бо яна ня хутка высыхае.

Улетку, а асабліва ў восені, ад дажджу гліна так раскісае, што бывае немагчыма хадзіць каля варыва.

Пасьля дажджу на версі грунту гліна засыхае, праз што не дапушчае ў сярэдзіну грунту паветра. Гной на глінах перагарае ня хутка, дзеля гэтага

трэба класьці яго з восені перад сяўбой, ці саджэньнем варыва вясной.

Каб зрабіць гліястыя грунты балей адпаведнымі для гарода, іх трэба палепшыць. Паляпшаецца гліна тады, калі дадаць да яе значную частку тарпы і пяску. Дзеля гэтага на гарод навозяць пясок і тарпу, якія растрасаюць, разбараноўваюць і загорваюць. Навозяць пясок і гліну ў працягу некалькіх гадоў, пакуль грунт на гародзе ня стане рыхлым і пасьля гараньня ня будзе брацца ў камы.

Каб можна было раней пачаць працу на гародзе вясной, гліястыя грунты ляпей гараць на зіму. Каб гліна ня так бралася ў камы і каб ляпей разсыпалася трэба ўгноіваць гліясты грунт вапнай.

На зіму гліну заўсёды трэба пакідаць загоранай, але не забаранаванай: ад марозу камы разваліваюцца.

**Суглеі і супяскі** для гароду добрыя. Суглеі і супяскі—гэта ёсьць такія грунты, якія маюць у сабе ў меру пяску,—гэтыя грунты можна лічыць для гароду за найлепшыя.

**Тарпісты грунт** таксама добры для гародніны, а асабліва для капусты. Трэба толькі, каб мейсца было сухое, каб не застаівалася вада, а дзеля гэтага ўвесь кавалак гароду павінен быць абкапаны канавамі. Тарпісты грунт добра ўгноіваць вапнай і пяском.

Я. П.

---

# Школьныя справы.

## Малебен.

5 верасьня гг. перад пачаткам лекцыяў у Віленскай Беларускай Гімназіі быў адслужаны малебен. На малебне былі ўсе праваслаўныя вучні і вучаніцы гімназіі на чале з сваімі настаўніцамі і настаўнікамі, у ліку якіх былі і каталікі. Малебен быў адслужаны сьвяшчэньнікамі А. Коўшам у гістарычнай Пятніцкай Царкве.

Адпаведная прамова была сказана ў беларускай мове.

Для каталікоў малебен служыў 9 верасьня ксёндз А. Станкевіч у Мікалаўскім касьцеле.

## Агульны сход бацькоў.

7 верасьня гг. адбыўся агульны сход бацькоў вучняў і вучніц Віленскае Беларускае гімназіі. Заслуханы цікавы даклад гр. Р. Астроўскага аб варунках, у якіх апынулася гімназія пасьля завешаньня галоўнае ўправы Т-ва Белар. Школы, якое як ведама было канцэсіянерам гімназіі, а таксама аб тых старацьнях, якія прыйшлося зрабіць, каб даць магчымасьць далейшаму існаваньню гімназіі.

На гэтым-жа сходзе абраны бацькаўскі камітэт з 5 асобаў у гэткім складзе. Старшыня—грам. Р. Астроўскі, таварышы старшыні грам. М. Кэпэль і А. Міхалевіч, скарбнік сьвяшчэньнік А. Коўш, сэкрэтар грам. А. Сакалова-Лекант.

Роля бацькаўскага камітэту вельмі адказная дзеля таго, што ён атрымаў канцэсію на гімназію і такім чынам яе ўтрымлівае і нясе ўсю адказнасьць за яе існаваньне.

Статут бацькаўскага камітэту ваяводзкай уладай зацьверджаны.

На тым-жа сходзе абрана з 3 асобаў наглядная рада (Rewizyjnaja Kamisja).

---

# Ад рэдакцыі.

## Прадстаўнікам Віленскага Сьнiпiшскага Прыходу N. N.

Па этычным матывам рэдакцыя лічыць для сябе немагчымым надрукаваць Вашу скаргу на пратаярэя а. В. Бяляева. Калі ўсе пададзеныя факты могуць быць Вамі сьцверджаны — дык ня можа быць, каб Вышэйшая Духоўная Улада ня зьвярнула на гэта ўвагі. Можаце зьвярнуцца безпасярэдна да Духоўнае Улады яшчэ раз.

# ХРОНІКА.

## Арганізацыйная Камісія па скліканьні Краявога Сабору.

З 14-га на 17-га верасьня адбыліся ў Варшаве паседжаньні Арганізацыйнай Камісіі, абранай праз Мітрапалітальную Раду, якая апрацоўвала статут і палажэньне для скліканьня Краёвага Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, а таксама праграму тых, пытаньняў, якія павінны разглядзець і вырашыць Сабор.

Успамагаўчым матар'ялам пры працы Камісіі былі праэкты Статута, Палажэньня і праграмы, апрацаваныя Сьв. Сынодам яшчэ у 1923 г.

Праэкты гэтыя пры дэтальным іх разгледжаньні Камісіяй значна зьменены і прыстасаваны да сучасных варункаў царкоўнага жыцьця. Зьменшаны лік прадстаўнікоў ад духоўных установаў праз што дасягаецца большая роўнасьць у лічбе прадстаўніцтва ад духавенства і міран. Наша Вышэйшая Духоўная Улада адважна і шчыра ідзе на спатканьне жаданьню шырокіх колаў грамадзянства аб скліканьні Сабору з шырокім удзелам у ім міран.

Міранам прадстаўлена поўная магчымасьць выявіць свае сілы, здольнасьць і волю пры будаваньні роднае царквы. Недалёкая будучыня пакажа, як мы гэтую магчымасьць скарыстаем.

---

## Прыемнае зьявішча.

Прыезныя з вёсак для паступленьня ў Віленскую Беларускую Гімназію вучні прывозяць ад гмін пасьведчаньні аб тым, што гміннымі самаўрадамі вызначаны рожныя сумы на стыпэндыі і наагул на помач вучням беларусам Віленскае Беларускае Гімназіі. Такое зьявішча трэба шчыра вітаць. Яно сьведчыць аб паглыбленьні нацыянальнай і культурнай сьвядомасьці сярод беларускага грамадзянства, а перад усім у абраных ім прадстаўнікоў у гмінныя рады.

Гэтыя вельмі прыемныя весткі павінны паслужыць добрым прыкладам для ўсіх гмінных самаўрадаў у напрамку падтрыманьня імі свае роднае моладзі.

Не абыдзецца без таго, каб некаторыя мяйсцовыя старосты ня ставілі перашкодаў гэтаму добраму пачынаньню, не зацьверджаючы такіх асыгнаваньняў. Аднак гэтыя перашкоды не павінны ўстрымліваць гмінныя самаўрады ад унясеньня ў расходны бюджэт падобных асыгнаваньняў. Бацькаўскі Камітэт Гімназіі зьвернецца да Ваяводзкіх Уладаў з просьбаю аб выдачы павятовым старостам загадаў не рабіць гмінным Самаўрадам перашкодаў у гэтай справе. Есьць надзея, што ваяводзкія ўлады аднясуцца да гэтага прыхільна.

---

## Таварыства Беларускае Школы адвешана.

У польскіх газэтах ад 8 верасьня надрукавана наступная абвестка: Учора п. ваявода разгледзіў рэкурс Т-ва Беларускае Школы на прадстаўленьне п. старосты гор. Вільні аб зачыненьні Т-ва і бяручы пад увагу запэўненьне беларускае дэлегацыі што:

1) У Т-ве будзе праведзена грунтоўная зьмена варункаў працы, а таксама пэрсональная зьмена ў кіраўнічых органах Т-ва.

2) Што канцэсію на далейшае існаваньне Беларускай гімназіі ў Вільні атрымаў Бацькаўскі Камітэт гэтае гімназіі, а не Т-ва Беларускай Школы, —

прызнаў магчымым адмяніць загад п. Старосты м. Вільні аб зачыненьні Т-ва Беларускае Школы.

---

## Катэдра Беларусазнаўства на праваслаўным Багаслоўскім Аддзеле Варшаўскага унівэрсытэту.

Рада прафэсароў Варшаўскага унівэрсытэту пастанавіла ўвясьці з гэтага школьнага году катэдру беларускае мовы на Праваслаўным Багаслаўскім Аддзеле Варшаўскага Унівэрсытэту, гдзе большасьць студэнтаў зьяўляюцца па

нацыянальнасьці беларусамі, пераважна матурыстамі Віленскае прав. духоўнае сэмінарыі.

Для выкладаньня беларускае мовы у Варшаўскім унівэрсытэце запрошаны Беларускі пасол Сойма доктар Янка Станкевіч.

Гэтую пастанову Рады Прафэсараў Варшаўскага Унівэрсытэту Беларускае грамадзянства спатыкае прыхільна дзеля таго, што значная частка студэнтаў-багасловаў па сканчэньні унівэрсытэту будзе працаваць на пасадах сьвяшчэньнікаў сярод беларускага грамадзянства.

---

З рожных мяйсцоў Віленскае Япархіі даносяць аб плянамерным, відаць, кіраваным з нейкага цэнтру зьнішчэньні праваслаўных помнікаў, знаходяшчыхся пры тых касьцёлах, якія нядаўна перароблены з царквоў. У Мядзіоле, напрыклад, прыгожы чыгунны помнік скінены з магілы пратаярэя Белавінцава і валяецца ў гнаі за агарожаю. Магілы жаўняроў забітых у вайну і пахаваных там-жа зьнішчаны.

Толькі нямногія крыжы паломаныя і пакручаныя яшчэ дзе-недзе стаяць — большасьць-жа іх зьнесяна, а магілы зроўняны з зямлёю.

Мяйсцовая праваслаўная люднасьць бязсільна бароцца з такім варварствам.

---

Ходзяць чуткі, што ў недалёкай будучыні маюць адбыцца перамены на мейсцох прыходзкіх сьвяшчэньнікаў у м. Вільні.



Перамены гэтыя нібы маюць сувязь з передачаю Пятніцкай Царквы беларускай гімназіі і заснаваньнем пры гэтай царкве асобнага прыходу для беларускага праваслаўнага грамадзянства.

---

Асобная камісія пры Віленскай Кансісторыі шукае дома, які мае быць купляны для епархіяльных патрэбаў. Нібы назначаны для пакупкі кавалак зямлі пад Вільняй.

Трэба адзначыць, што Віленскаю Епархіяльнаю Уладаю ня гледзячы на пастанову Епархіяльнага Зьезду духавенства ў 1926 г. праданы быў архіярэйскі дом, замест якога цяпер хочуць купіць кавалак зямлі. Цікава, хто будзе жыць і працаваць у гэтай сядзібе і чаму гэта стала патрэбным замена дома на зямлю.

---

Нядаўна ў в. Мамаях адбылася ўрачыстасьць асьвяшчэньня Царквы. Людзей на гэтую ўрачыстасьць сабралася вельмі шмат. Мамаеўскую Царкву, як ведама, хацелі захапіць каталікі, але праваслаўнае грамадзянства ўтрымала Царкву за сабою,

У часе гэтае барацьбы Царква была апаганена: каталікамі быў зсунуты з мейсца прастол.

---



# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.

2

# Прымаецца падпіска

на царкоўна-народную, літэратурную і гаспадарчую часопіс

# „БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“

**Пачынаючы з 1 верасьня часопіс будзе выхадзіць 2 разы ў месяц.**

## „БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА“

будзе асьвятляць жыцьцё Царквы і беларускага народу ў Польшчы і заграніцай і дбаць аб пашырэньні культуры, рэлігійнай і нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага народу.